*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 39(373)** **7 КАСТРЫЧНКА 1998 г.**

## Шаноўныя сябры "Нашага слова"

Рэдакцыя газеты і сакратарыят ТБМ імя Францішка Скарыны вітаюць вас у чацвёртым квартале 1998 года. Крызіс з паперай, які навісаў над газетай часова пераадолены. Мы закупілі паўтоны паперы і некаторы час можам уздыхнуць з палёгкай. У наступным нумары мы зможам паведаміць вам вынікі падпіскі, а сёння можам назваць толькі лічбу 948, якія падпісаліся на 4-ты квартал, значная колькасць падпісчыкаў падпісалася яшчэ летам да канца года. Колькі ўсяго, пакуль сказаць не можам, але што значна больш тысячы гарантуем.

Асобна мусім адзначыць, што Сакратарыят ТБМ падпісаў на газету "Наша слова" ўсе бібліятэкі Касцюковіцкага, Клімавіцкага і Кобрынскага раёнаў, дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання Павел Знавец з дапамогай некалькіх прыватных прадпрымальнікаў падпісаў на газету "Наша слова" ўсе школы Столінскага раёна.

**Станіслаў Суднік**

## Сталіца ВКЛ прачнулася

У Навагрудку адроджана суполка ТБМ імя Францішка Скарыны. Суполка прыняла сваю ранейшую назву "Узвышша". Што ж, у добры шлях і даўно пара навагрудцам згадаць, што Навагрудак - сталіца ВКЛ.

## Шаноўнае спадарства!

Архіў беларусай рок-музыкі будзе вельмі ўдзячны Вам, калі дапаможаце ў нашай працы ў наступным:

1. Размясціць ў мясцовых выданнях аб'яву наступнага зместу:

"Беларускі Гуманітарны Фонд "Наша Ніва" стварае Архіў беларускай рок-музыкі, які бачыць асноўнай мэтай сваёй дзейнасьці збор матэрыялаў і даследванне паўставання сучаснай незалежнай музычнай традыцыі Беларусі.

Першым вынікам працы Архіва стала храналогія легенды беларускага року-гурта "БОНДА" (была надрукавана ў НАШАЙ НІВЕ"). У хуткім часе з'явіцца храналогія гурта "МРОЯ". Таксама Архівам збіраюцца старыя, рарытэтныя

*аўдыё- і відэа матэрыялы;

*друкаваная прадукцыя (газеты, часопісы, афішы, плакаты і да т.п.);

* інфармацыя пра мясцовыя гурты

— ўсё гэта потым увойдзе ў Энцыклапедыю беларускага року.

Зацікаўленым асобам просьба звяртацца па адрасе: 220085 Беларусь Менск а/с 5.

"Архіў беларускай рок-музыкі" або па тэлефоне (017) 213-50-41 (Сяргей Сахараў)

2. У рамках Архіву створана сістэма "Касета і кніга — поштай", што дае магчымасьць набыць запісы беларускіх гуртоў, кнігі назалежна ад месца жыхарства. Спіс касэт і кніг друкуецца ў "НАШАЙ НІВЕ". Паводле вынікаў продажу касет ствараецца хіт-парад. Пры згодзе выдання друкаваць хіт-парад мы можам аператыўна паведамляць вынікі.

Па пытаннях набыцця касет, плакатаў, значыкаў, кніг, атрыманьня каталога просьба звяртацца: 220085 Менск а/с 5 або па т. (017) 2490888 Віталь.

Будзем вельмі ўдзячны Вам, калі паспрыяеце распаўсюджванню нашай прадукцыі: дадзіце інфармацыю ў мясцовым выданні, пашырыце інфармацыю сярод знаёмых, даведаецеся ў крамах пра магчымасць рэалізацыі нашага асартыменту і г.д. Дадатковую інфармацыю можна атрымаць праз вышэйпазначаны адрас.

3. Архіў можа дапамагчы ў арганізацыі канцэртаў беларускіх гуртоў, бардаў і г.д. Для гэтага трэба вырашыць некалькі пытанняў:

1. Магчымае месца правядзеньня канцэрту, кошт арэнды.

2. Гукаўзмацняльная апаратура, кошт.

3. Магчымае фінансаваньне.

Зацікаўленым асобам зьвяртацца па вышэйпазначаных адрасах.

Спадзяемся на плённае супрацоўніцтва з Вамі.

## Мясцовая незалежная прэса - беларускамоўная

У апошні час паўсюдна на Беларусі адно за адным сталі з'яўляцца незалежныя выданні: газеты, часопісы, альманахі і іншыя. У сувязі з недасканаласцю Закона аб друку, праблемамі, што ўзнікаюць пры рэгістрацыі друкаванай прадукцыі, яны выходзяць накладам у 299 асобнікаў і разлічаны на рэгіянальнага чытача. Выдаюць іх часам не журналісты, не прафесіяналы, але не гледзячы на гэта такія выданні карыстаюцца попытам. На нашых вачах ствараецца рынак мясцовай незалежнай прэсы. І радуе не толькі гэта. Больш радуе, што ў большасці сваёй гэтыя выданні беларускамоўныя. Геаграфія іх - усе рэгёны Рэспублікі Беларусь. Вось некаторыя з гэтых выданняў: "Гоман Барысаўшчыны"- рэдактар А. Мацельскі, "Вольнае Глыбокае" - рэдактар У. Скрабатун,

РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА: БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, ШАРКОЎШЧЫНА.

**ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ**

...не разбіць, не спыніць, не стрымаць

**Голас Ліды**

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

ДАЛЕЙ АД РАСЕІ!

Жыве Беларусь! *Mahiloŭskaja Maładziožnaja*

***Магілёўская Маладзёжная***

ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ВЕДЫ!

***Мастоўскі веснік***

Не народ для ўлады, а ўлада для народа.

**Спартак—Прадпрымальнік**

верасень

№ 2

"Клімавіцкі настрой", "Шклоўскія навіны", Рўрэдактар А. Шчарбак, "Наш дом", Бабруйск, рэдактар - В. Свізуноў, "Голас Ліды" - рэдактар В. Федасевіч, "Наша праўда", Дзятлава - рэдактар М. Грышан, "Выбар", Віцебск - рэдактар Б. Хамайда, "Сумежжа", Паставы - рэдактар М. Гіль, "Мастоўскі веснік" - рэдактар Язэп Палубятка, "Рэгіянальная газета" - рэдактар А. Манцэвіч, "Пагоня" - рэдактар М. Маркевіч. "Тыднёвік Магілёўскі" - рэдактар Г. Суднік і інш.

Некаторыя выданні, як "Газета Слонімская" - рэдактар В. Валадашчук і "Слуцкі кур'ер" -рэдактар У. Пратасевіч двухмоўныя.

Ёсць газеты: "Голас Ліды" і інш., якія карыстаюцца, як "наркамаўкай", так і "тарашкевіцай", у залежнасці ад таго, якім правапісам карыстаецца аўтар.

З 2-га па 4-тае кастрычніка пад Менскам прайшоў семінар выдаўцоў незалежнай рэгіянальнай прэсы. За год у параўнанні з аналагічным леташнім семінарам у Маладэчне колькасць выданняў павялічылася ў 3-4 разы.

Зыходзячы з гэтага можна сказаць адно - беларускамоўнаму незалежнаму друку на абшарах Рэспублікі Беларусь БЫЦЬ!

***Антось Макей***

## *Беларускія СМІ пра беларускую мову*

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

А бяз мовы няма нацыі, есць толькі паслухмяная маса без нацыянальнасці ў пашпарце й розуму ў галаве ... А будзе сапраўдная беларуская мова, будзе й сапраўдны беларускі народ.

**Тамаш Грыневіч**
**"Наша ніва" № 17 14.09.98г.**

*Дайшло да таго, што сам кіраўнік дзяржавы падымае на смех, здзекваецца з мовы таго народа, якім па волі лёсу яму давялося кіраваць.*

***Мікола Капыловіч***
***2.09.98г.***
***"Народная воля"***

У савецкай дзяржаве агульнапрынятым было літаральна ўсё: ад законаў да стылю вопраткі. Сёння ў гэтыя рамкі ўціскаюць мову. Дакладней, не ўціскаюць, а ставяць туды, як эталён, рэфармаваны (чытай:скажоны) ў 1933 годзе правапіс.

***Сяргей Прылуцкі, Бярэсьце***
***"Наша ніва" 31.09.98г.***

Паважаны беларускі міністр (адукацыі В.І.Стражаў — Я.П.) ішоў на справаздачу да прэзідэнта Беларусі з тэзісамі напісанымі на мове суседняй дзяржавы і ў такім "непарушным" выглядзе перадаў іх у друк.

Вінаваціць Васіля Іванавіча Стражава, мабыць, будзе несправядліва. Яго толькі можна пашкадаваць, што ён, вучоны, доктар навук, вымушаны рабіць, прабачце, бязглуздзіцу... А мо, хто ведае, ён з задавальненнем і па ўласнай ініцыятыве рыхтаваў справаздачу на рускай мове?

Цікава, няўжо прэзідэнт якой іншай краіны свету прыняў бы справаздачу свайго міністра, ды яшчэ па праблемах адукацыі, не на роднай, а на мове іншай дзяржавы. Ці трэба, нарэшце, здзіўляцца таму, што ў Беларусі, адзінай у свеце краіне, няма ніводнай нацыянальнай — ні сярэдняй, ні вышэйшай навучальнай установы, што рэзка скарацілася колькасць беларускамоўных класаў, што амаль нідзе ва ўстановах і арганізацыях не пачуеш беларускай гаворкі.

"Такога дзікунства няма нідзе ў свеце"

**Я.Налівайка**
**"Народная воля" 5.08.98г.**

## "Здаровы сэнс" за "Наша слова"

Еженедельная газета Жить не по лжи!

**Здравый смысл**

№39 (162) 23 - 30 сентября 1998 г.

**Калі ты ГРАМАДЗЯНІН, дапамажы!**

Апёная на гэты час газета "Наша слова" — тое, што сёння ёсць у Таварыства беларускай мовы.

Гэта зусім не шмат грошай, але падпісаўшыся на яе, ты не выратуеш!

**Калі ты — беларус! Калі твой сцяг — бел-чырвона-белы! Калі ты хочаш жыць у вольнай Бацькаўшчыне!**

"Наша слова"

**Падпісны індэкс 63865**

**Цана на адзін месяц — 12 000 рублёў.**

Такія аб'явы на працягу чатырох нумароў друкавала газета "Здаровы сэнс" З поўнай адказнасцю магу сказаць што мы гэтую рэкламу не замаўлялі. Тым больш я выказваю шчырую падзяку і спадару Каравайчыку, і ўсёй газеце "Здаровы сэнс" за шляхетную падтрымку. Дзякуй!

**Станіслаў Суднік**

# ПРА НАШ ПРАВАПІС



Бадай, як ніхто з іншых беларускіх пісьменнікаў, словам і справай падтрымліваючы Беларушчыну, Васіль Быкаў яшчэ ў 1993 г., цвяроза ацэньваючы палітычную сітуацыю ў нашай краіне, гаварыў аб праблематычнасці ажыццяўлення той высакароднай задачы культурнага адраджэння нацыі, якую паставілі перад сабой на самым пачатку сваёй дзейнасці БНФ і іншыя палітычныя партыі. Гэта задача, не падмацаваная нацыянальнай самасвядомасцю народа, паводле В.Быкава, "ужо ўпачатку абяцала марудна і безвынікова сканаць". I яшчэ яго ж прарочае выказванне (ЛіМ, 19.03.1993): ***"Нацыянальна свядомая частка грамадства наіўна кідаецца ў спрэчку наконт пераваг дзвюх граматык — Тарашкевічавай і наркамаўкі, дыскутуючы аб разыходжанні ў трактоўцы мяккасці падвоеных зычных, а ў той час камуністычныя ўлады прыбіраюць пад сваю апеку ўвесь друк, маючы на мэце канчаткова ўсталяваць расейскае аднамоўе".***

У 1993 г. мне давялося быць сябрам дзяржаўнай камісіі па ўдакладненні правапісу (яе ўзначальваў Н. Гілевіч), і я таксама рашуча змагаўся за мяккі знак і іншыя змены ў арфаграфіі.

Калі не быць занадта ўпартымі, дык сёння трэба прызнаць неабачлівасць, памылковасць тагачасных дзеянняў, звязаных з акцэнтаваннем празмернай увагі на правапісе, з самачыннай заменай слоў, да якіх усе прывыклі за многія дзесяцігоддзі, іншымі (***газэта, райкам, альфабэт, кампутар***). Прыгадаем, што, напрыклад, на Украіне не спяшаліся і не спяшаюцца ставіць моўныя пытанні на першы план.

Ёсць у Васіля Зуёнка, шчырага прыхільніка беларускасці, верш "Мяккі знак" (1994). Ён пачынаецца з таго, як баба, калі загарэлася хата, стала ратаваць не кубел з пражаю, а "***з ляманпам цягнула матавіла***". Гаворыцца тут і пра зацятыя спрэчкі: "мяккі знак вяртаць ці не вяртаць". А заканчваецца верш так: ***"I над мовай дзьмухаюць кадзілам, праваць пахавальную імшу, ну, а мы — выносім матавіла, калі трэба ратаваць душу..."***

Сёння, калі лёс самой нацыі крайне незайздросны, наўрад ці варта зноў і зноў вяртацца да пытання, як палепшыць правапіс. Не той сёння час. Не да гэтага. Ды і наогул у любой краіне хваравіта ўспрымаюць адыход ад арфаграфічнай традыцыі. У арфаграфіі пануе, як пісаў Л. Булахоўскі, "фанатычны кансерватызм". Усюды змены ў правапісе робяцца не самачынна, а толькі на дзяржаўным узроўні. Можна прывесці такі прыклад. Нядаўна ў Германіі афіцыйна ўступілі ў сілу новыя правапісныя правілы, але працэс іх засваення завершыцца толькі ў 2003 годзе. Прыняццю правілаў папярэднічалі шматгадовыя спрэчкі, усебаковае абмеркаванне і, нарэшце, рашэнне Федэральнага канстытуцыйнага суда, які даў згоду на ўвядзенне новых правілаў. Цяпер там замест ранейшых 212 правілаў будзе толькі 112.

У нас нярэдка пра тарашкевіцу пішуць і такія аўтары, якія, мякка кажучы, не вельмі добра знаёмыя з самой "Беларускай граматыкай для школ" Б. Тарашкевіча. А між тым аўтар гэтай граматыкі ў прадмове да 5-га выдання (1929) пісаў, што ён выразна бачыць ***"цэлую чараду яшчэ спрэчных пытанняў (у аканьні, у правапісе чужаземных слоў і інш.), бачыць патрэбу і магчымасьць спашчэньня правапісу, але не бярэцца праводзіць якія-колечы паважнейшыя зьмены такім індывідуальна-партызанскім спосабам", бо "гэта павялоб толькі да шкоднага хаосу".*** Ён прызнаваў неабходнасць правапіснай рэформы і слушна лічыў, што апрацаваная паасобнымі людзьмі адпаведныя праекты павінны ***"прайсьці праз публічнае сіта грамадзкай і навуковай крытыкі перш, чым маюць быць уведзены ў жыцьцё аўтарытэтам культурных устаноў. Бо тутака пасьпех, запраўды, можа быць людзём на сьмех".***

Даволі часта ў друку можна сустрэць недакладнасці як пра тарашкевіцу, так і пра наркомаўку. У адной працы, напрыклад, гаворыцца, што пасля арфаграфічнай рэформы 1933 г. аж да 1958 г. пісалі: Гродно, Глебко, Броўко. Але гэта няпраўда: пералічаныя словы заўсёды пісаліся з канцавым "а". Гл., напрыклад, у "Руска-беларускім слоўніку" (1953).

Далей спынюся на некаторых недакладнасцях, якія ёсць у артыкуле М. Булавацкага "Апошні, а можа і першы бастыён свабоды" (Наша слова, 9.09.1998г).

Тут сцвярджаецца, што ў выніку згаданай ужо рэформы беларуская мова набыла неўласцівыя ёй "***суфіксы -уч, -юч, -ўш", "напалову страціла перадпаціскное "я", прыняла беспаціскныя "э" і "о" ...: соцыялізм, комунізм, комітэт".***

На самай жа справе гэта не так. Дзеепрыметнікі з суфіксамі -уч-, -юч-, -ўш- ужываліся і да рэформы, у "Граматыцы ..." Б.Тарашкевіча гэта ілюструецца адпаведнымі прыкладамі: ***чытаючы (й), чытаючая, чытаючае, чытаючага, чытаўшы(й), купляўшы(й), купляўшая, купляўшае; праўда, сказана, што дзеепрыметнікі ў форме цяперашняга часу (з суфіксамі -уч-, -юч-) ужываюцца рэдка.*** Прыкладна тое самае знаходзім і ў сучасных падручніках і навуковых граматыках.

Што да правіла пра перадпаціскное "я", то яно было занадта складанае. Літара "я" пісалася на месцы "е" не толькі ў першым складзе перад націскам ***(бяда, ня-ма, ля-жыць), але і ў другім складзе перад націскам, "калі ў першым няма "а" або "я" (ля-су-на, ня-ву-чо-ны, ня бы-ла, бяз дзі-ця-ці)". Больш таго: "калі ў слове націск на прыстаўцы (найчасцей вы -), то "яканьне можна азначаць так, як быццам слова стаіць бяз прыстаўкі: ляцець — выляцець, нясьці — вынясьці, нясу — вынясу". I яшчэ: каранёвае "ё" ў такіх выпадках замяняецца на "я": нёс — вынес, вёз — вывяз, вёў — вывяў, лёт — вылят, дзёр — выдзяр".*** Сам аўтар "Граматыкі ...", як ужо цытавалася вышэй, адчуваў, што правіла пра аканне (яканне) мае патрэбу ў спрашчэнні.

Некалькі слоў пра беспаціскныя "э" і "о". У адпаведнасці з рэформай правапісу, наша мова не "прыняла", як піша М. Булавацкі, а, наадварот, пазбавілася шматлікіх ненаціскных "э" і асабліва "о". Вось як пісалі да 1933 г. (некалькі прыкладаў з п'есы Я Купалы "Тутэйшыя". апублікаванай у 1924 г., і зборніка апавяданняў К. Крапівы "Людзі-суседзі" выдання 1928г.): ***рэнэгат, дэгэнэрат,мэтамарфоза, пропозыцыя, профэсар, цэрамонія, сэзоны, організм, пэрсона, унівэрсытэт, сэанс, орыгінальны, пролетарскі, псыхо-патолёгічны, мэтодолёгія, фізыолёгія, інжэнэр, ідэолёгія, поэтычны, рэволюцыя.*** Няўжо і сёння многія хацелі б вярнуцца да такіх напісанняў? Правапісная рэформа падпарадкавала правілам акання ўсе словы іншамоўнага паходжання. Было, аднак, зроблена выключэнне для 11 так званых інтэрнацыянальна-рэвалюцыйных слоў з усімі ад іх вытворнымі: ***рэвалюцыя, совет, большэвік, комуна, соцыялізм, комунізм, комсамол, піонер, пролетарый, Комінтэрн, Профінтэрн***. У 1957 г. і гэтыя словы падпадалі пад агульнае правіла аб аканні.

Ёсць у артыкуле М. Булавацкага і разважанні пра неабходнасць асобных знакаў-літар для абазначэння на пісьме злітных гукаў "дз" і "дж". Кожны з гэтых гукаў у нас абазначаецца спалучэннем дзвюх літар, якое называецца дыграфам або лігатурай. У алфавітны пералік яны не ўключаюцца, бо кожная састаўная частка дыграфа ўжо заняла ў алфавіце сваю нішу. I яны нармальна выконваюць сваю функцыю. Аналагічнае можна бачыць і ў некаторых іншамоўных алфавітах. Напрыклад, у польскай мове алфавіт складаецца з 33 літар, а па-за алфавітам ёсць яшчэ аж 7 дыграфаў, у тым ліку dz, для абазначэння афрыкатаў. У нямецкай мове фанема "ш" абазначаецца спалучэннем трох літар — sch, а для перадачы на пісьме фанемы "ч" выкарыстоўваецца спалучэнне з чатырох літар — tsch. Таму і ў нас наўрад ці трэба прыдумваць яшчэ нейкія знакі-літары для перадачы афрыкатаў.

Думаецца, што ў нашым правапісе пры зусім іншай, спрыяльнай палітычнай сітуацыі будуць зроблены пэўныя змены, але толькі так, як гэта робіцца ў дэмакратычным грамадстве і як пра гэта пісаў у раней прыведзенай цытаце бацька першай беларускай граматыкі.

***Іван ЛЕПЕШАЎ,***
***прафесар кафедры беларускай мовы Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы, доктар філалагічных навук.***

# Выцечка на радзіму Адама Міцкевіча

У канцы жніўня ранкам можна было пабачыць групу людзей на праспекце Ракасоўскага, якія садзіліся ў аўтобус. З Серабранкі пачыналася падарожжа ў Наваградак, на радзіму класіка сусветнай літаратуры Адама Міцкевіча.

Некалі Гётэ сказаў: " Калі хочаш зразумець паэта, пабывай на яго радзіме." Гэтых людзей з Серабранкі, якія так часта вандруюць па Беларусі аб'яднала любоў да сваёй Бацькаўшчыны, да маляўнічых месц, да сваіх знакамітых сыноў любай Беларусі, а таксама да мовы роднай. Нам пашанцавала, што з намі ехалі такія вядомыя людзі нашай краіны, як сп.Ю.Хадыка і сп.А.Трусаў. Гэта былі цудоўныя экскурсаводы, якія амаль што ведаюць пра ўсё. Па дарозе мы заехалі ў Новы Свержань. У мінулыя стагоддзі тут стаяла вялікая фаянсавая мануфактура. Мы наведалі касцёл XYI стагоддзя і царкву, адбудаваную ў 1918 г. — помнік архітэктуры XYI стагоддзя, наведалі месца бітвы паміж французамі і расейскімі войскамі генерала Чычагава 1812 года. Гэта бітва вырашала лёс Менска. I пра ўсё гэта нам расказаў ураджэнец гэтых мясцін сп.Б.Драздоўскі.

А вось і Мірскі замак. Тут мы спыніліся і сп.А.Трусаў распавёў свой расказ пра замак, яго раскопкі, якія ён сам рабіў. Мы хадзілі па музею зачараваныя. Дзеці і дарослыя ўбачылі цікавыя рэчы той даўніны XYI стагоддзя. I вось, нарэшце, мы прыехалі ў Наваградак. Наваградчына — маляўнічы куток нашага краю. Наваградак — былая сталіца нашай старажытнай дзяржавы ў XIII стагоддзі. Мы сваімі вачыма ўбачылі, што горад рыхтуецца да свята. То там, то сям кладуць брукоўку, фарбуюць, тынкуюць дамы. I калі мы запыталі, чаму гэта робіцца ў грамадзян горада, то яны ганарліва адказалі: "Нашаму зямляку Адаму Міцкевічу хутка будзем адзначаць юбілей — 200 годдзе з дня нараджэння". Каля фарнага касцёла сп.А.Трусаў расказаў нам, што ў гэтым касцёле паэта хрысцілі. Мы агледзелі руіны замка і ўпершыню ўбачылі побач помнік Адаму Міцкевічу. Як быццам паэт зноў вярнуўся на радзіму. З ранняга дзяцінства А.Міцкевіч увабраў у сябе і добра ведаў мову, легенды, песні тутэйшых жыхароў. У горадзе, дзе некалі жыў паэт, створаны Дом - музей А.Міцкевіча, дзе захоўваюцца прыжыццёвыя, сучасныя выданні твораў, рукапісы, работы мастакоў і бронзавы бюст А.Міцкевіча. З якой павагай пра лёс А.Міцкевіча распавядала нам сп.Сычэўская Ірына. А.Міцкевіч любіў свой край і заўсёды душа яго тут.

... Дазволь душы маёй,
ахопленай адчаем,
Пераляцець туды, дзе поясам блакіту
Над Нёманам лясныя ўзгоркі апавіты,
Дзе прозеленню жыта ў полі серабрыцца
I залаціцца поўным коласам пшаніца...

Свайго зямляка, выдатнага паэта А.Міцкевіча мы пазналі лепш. Яго імя стаіць у шэрагу класікаў сусветнай літаратуры: Гётэ, Байрана, Пушкіна. Мы набылі кнігі А.Міцкевіча. Назад вярталіся, спявалі беларускія песні, сп.Ю.Хадыка расказваў нам пра мінулае, каб мы яшчэ лепш ведалі сваю гісторыю, тых людзей, якія жылі, тварылі і змагаліся ў іншы час. Мы вельмі ўдзячны сп. Ю.Хадыка і сп.А.Трусаву за гэта падарожжа.

Ладзілі вандроўку ТБМ Ленінскага раёна г.Менска з ўдзелам сяброў ТБМ Кастрычніцкага раёна. Уступайце ў сябры ТБМ і вы разам з намі будзеце ведаць лепш свой край, яго гісторыю.

**Грузнова Т.**

# Дзень ведаў па-беларуску

Сімвалічная акцыя прайшла ў Менску ў дзень 1 верасня, які традыцыйна адзначаецца як "Дзень ведаў". Правёў яе Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны пры падтрымцы "Аддзелу навукі і культуры " БНФ" "Адраджэньне", а таксама Беларускага гуманітарнага ліцэя.

Санкцыянаваны гарадскімі ўладамі пікет, што адбыўся ў раёне завулка Ленінградскі (паміж пл.Незалежнасці і вул.Ленінградскай), хоць і ладзіўся ў святочны дзень, аднак паводле сваёй злабадзённай тэматыкі ніяк не ўпісваўся ў праграму святочных урачыстасцяў. Дастаткова сказаць, што акцыя праводзілася на фоне катастрафічнага заняпаду беларускамоўнай адукацыі ў сярэдніх навучальных установах і ВНУ Рэспублікі, і стане зразумела, што актуальнасць вылучанай на ёй праблемы наспела ўжо даўно.

Як было адзначана ў афіцыйнай заяўцы, пададзенай арганізатарамі пікета ў Менскі гарвыканкам, акцыя праводзілася з мэтай абароны беларускамоўных класаў і школ, а таксама ў падтрымку беларускамоўнай адукацыі.

Шматлікія факты масавых скарачэнняў школ з беларускамоўнай сістэмай навучання сёння выклікаюць ужо не проста занепакоенасць, а сапраўдную трывогу ў свядомай часткі грамадства. Тэмпы ж скарачэння беларускамоўных класаў у школах Беларусі (!) можна параўнаць хіба толькі з тэмпамі абвалу расейскага рубля ў Расеі. Стала відавочна, што ў новым навучальным годзе гэтая тэндэнцыя дасягнула свайго апагею. Так, у мікрараёнах сталіцы многія з нядаўна адкрытых школ яшчэ тры гады таму афіцыйна называліся беларускамоўнымі, бо атрымалі гэты статус дзякуючы абсалютнай большасці маладых бацькоў, якія жадалі, каб іхныя дзеці вучыліся па-беларуску. Аднак за апошнія гады беларускамоўныя класы ў гэтых школах былі ліквідаваныя ўсімі праўдамі і няпраўдамі, прычым усе да аднаго (!). Гэтыя жудасныя праявы моўнай дыскрымінацыі вымусілі студэнтаў, бацькоў, культурных і грамадскіх дзеячоў, выкладчыкаў, навукоўцаў, паэтаў, пісьменнікаў, — усіх тых, каму не абыякавы лёс нацыянальнай мовы, выйсці 1 верасня на пікет. I хоць колькасць удзельнікаў у мерапрыемствах такога кшталту звычайна абмежавана. сама акцыя насіла непалітычны, а таму дастаткова мірны характар і не засталася па-за ўвагай, як з боку СМІ, так і з боку пільных супрацоўнікаў гарвыканкама і, асабліва, міліцыі, якой у эпіцэнтры падзей сабралася не меней, чым на буйных палітычных акцыях апазіцыі. Магчыма, што такія звышмеры скіраваны былі на тое, каб не дапусціць раптоўнага далучэння да пікетчыкаў шматлікіх студэнтцкіх аддзелаў, якія ў гэты самы час калонамі зганяліся на пляц Незалежнасці, дзе праводзіліся святочныя ўрачыстасці. А ў лічаных кроках ад месца ўрачыстасцяў стаялі некалькі дзесяткаў чалавек з плакатамі, надпісы на якіх вельмі кантраставалі са святочным канцэртам, бо гаварылі пра набалелае. "Абаронім мову Купалы!", "Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі...", "Камусьці вельмі хочацца, каб народ быў нямы", — такімі былі заклікі і высновы, адлюстраваныя на гэтых і падобных плакатах, якія красамоўна сведчылі, што далёка не на кожную вуліцу ў гэты першы восеньскі дзень прыйшло доўгачаканае свята...

У пікеце прынялі ўдзел старшыня ТБМ, народны паэт Генадзь Бураўкін, ягоныя намеснікі Людміла Дзіцэвіч і Алег Трусаў, старшыня Менскай гарадской арганізацыі ТБМ, праф.Саламонаў.

**С.Гуркоў**
**сябра сакратарыяту ТБМ**

*P.S."Наша слова" паведамляла ўжо пра гэты пікет, а сёння мы вярнуліся да яго,выключна дзеля таго, каб даць слова аднаму з удзельнікаў і арганізатараў.*

*Вяртаючыся да надрукаванага.*

# "ЛІПА" — ЯНА І ЁСЦЬ "ЛІПА"

Узяцца за напісанне гэтага допісу мяне прымусілі дзве абставіны: нататка "Беларусы на Украіне", якая была перадрукавана беластоцкай газетай "Ніва" (№23 ад 7 чэрвеня сёлета) з газеты "Свабода" (№57 ад 20 травеня сёлета, падпісаная БелаПан), і ліст гэтак званага "совета председателя белорусских национально-культурных товариществ в Украине" ад 9 ліпеня сёлета, падпісаны " председателем совета, Героем Советского Союза, генерал-лейтенантом М.Пилипенко", якому, дарэчы, 3 верасня было ўжо 73 гады ...

... У нататцы БелаПан "Беларусы на Украіне" гаворыцца, што "беларусы займаюць трэцяе месца па колькасці сярод этнічных меншасцяў Украіны, там дзейнічаюць 20 беларускіх нацыянальна-культурных таварыстваў". І далей па тэксту: ***"Як паведаміў беларускі пасол на Украіне Віталій Курашык, у раёнах, дзе кампактна пражываюць беларусы, у некаторых школах факультатыўна вывучаецца беларуская мова. У Львове беларускім нацыянальна-культурным таварыствам імя Ф. Скарыны выдаецца на бела-рускай мове газета "Беларус Галічыны", трансліруецца 15-хвілінная перадача па радыё "Весткі з Рэспублікі Беларусь"*** ... Не цытую далей, таму што ўжо таго, што працытаваў дастаткова, каб сказаць: л у х т а! І абвяргаць пачну з канца цытаванага. Няма зараз таго ў Львове, што раней было! І "беларускаму" паслу Курашку трэба было б ведаць, што газета "Беларус Галічыны" спыніла сваё існаванне ўжо гады два-тры назад з-за недахопу сродкаў на яе выданне, не выходзіць таксама на Львоўскім абласным радыё і 15-хвілінная перадача на беларускай мове. Ведаю гэта ад самога спадара Барыса Цімошчанкі — старшыні аб'яднання Беларусаў імя Францішкі Скарыны ў Львове, з якім апошні раз сустракаліся пад час работы Другога з'езда Беларусаў свету ў канцы ліпеня мінулага года. А ў якіх канкрэтных школах факультатыўна вывучаецца беларуская мова, спадар Курашык? Вы ж добра ведаеце, што няма на Украіне такіх школ, бо каб былі б, то пра гэта б пісалі украінскія газеты "Освіта", "Голос Украіны" ды іншыя, у якіх час ад часу даводзіцца чытаць пра навучанне дзяцей нацыянальных меншасцяў Украіны: палякаў, мадзяраў, жыдоў, расейцаў, грэкаў, малдаван з румынамі, славакаў ... Пра беларусаў я, менавіта, за 15 гадоў працы ва ўкраінскай школе не прачытаў ніводнага радка ў згаданых газетах, якія чытаю пастаянна (калісьці "Освіта" называлася "Радянськаю освітаю", але яе змест не змяніўся па сёння!).

Калі пад "факультатыўным навучаннем" спадар Курашык меў на ўвазе мой гурт беларускай культуры "Зорка Венера" у старадаўнім горадзе Ізяслаў, дзе сапраўды дзеці вывучаюць беларускую мову побач з літаратурай, гісторыяй, фальклорам, то трэба было так і сказаць канкрэтна, а не "пушчаць пыл у вочы" чытачам у Беларусі, а дзякуючы перадрукоўцы нататкі беластоцкай "Нівай" — і ў Польшчы ды іншых краінах свету, дзе пражываюць беларусы, якія чытаюць "Свабоду" ды "Ніву" ...

Мінулі часы голай савецкай рыторыкі: сёння трэба казаць усё канкрэтна, прыводзіць прыклады з указаннем адрасоў фактаў, прозвішчы выканаўцаў. Вось гэтага і няма ў нататцы, калі размова вядзецца пра "факультатыўнае вывучэнне беларускай мовы на Украіне", бо адкуль іх узяць?! "Факт", высмактаны з пальца, або "ліпа", калі жаданае выдаецца за дзейснае. Балюча і горка, і навошта ўзводзіць людзей у зман? Трэба было б паслу Курашыку па-сапраўднаму паруліцца, каб на Украіне ў трэцяй па колькасці жыхароў (амаль паўмільёна!) беларускай нацыі была і свая агульнадзяржаўная газета, якую, дарэчы, маюць палякі, якіх тут у тры -чатыры разы меней, чымсьці беларусаў (маю на ўвазе газету "Дзённік Кіеўскі"), тыя ж палякі маюць сваю польскамоўную газету ў Львове "Газета Львоўска", палякі толькі ў Львове маюць дзьве сярэднія польскамоўныя школы, а колькі іх у прылеглых да Польшчы раёнах, колькі класаў з польскай мовай навучання сёньня па ўсёй Украіне?! У адной нашай Хмяльніцкай вобласці працуе каля 10 польскамоўных класаў, каля 20 класаў, дзе польская мова вывучаецца, як прадмет. Польскую мову вывучаюць у вобласці ў 92 школах факультатыўна! І гэта не "лухта": я прыводжу афіцыйныя звесткі Хмяльніцкага абласнога ўпрўлення асветы! Нам бы, украінскім беларусам, хаця б 1% ад таго , што маюць на Украіне палякі ў галіне культуры, адукацыі, СМІ! Польшча ўвесь час праз свайго амбасадара ў Кіеве, праз сваіх генеральных консулаў у Львове, Харкаве, Адэсе ўвесь час сочыць за тым, каб яе "дзеці" (палякі), мелі ўсё, без чаго немагчыма на чужой зямлі адчуваць сябе палякам. Беларусамі не цікавіцца Беларусь! А тое, што "зварганілі" ад "бадуна" пасол Курашык, на правялікі жаль, звычайная "савецкая ліпа". Ды гэта і не дзіўна: мы ўсе тут ведаем, якому здзеку і прыніжэнню ўвесь час падвяргаецца наша родная мова ў самой Беларусі ...

... У 2-ім нумары газеты для суайчыннікаў за межамі Бацькаўшчыны "Голас Радзімы" была надрукавана мая нататка "Беларусы Украіны аб'ядноўваюцца". З'яўленне яе ў тыднёвіку было звязана з тым, што ў канцы верасня 1997 года я атрымаў на расейскай мове ліст за подпісам "председателя инициативной группы по созданию совета председателей белорусских культурных товаришеств в Украине" некага А. Варанчука і "членов инициативной группы" С. Жолудзь, А. Чваркова, Д. Каспяровіч, В.Маслава, А.Болбаса. У гэтым лісце згаданыя тут "товарищи" пералічылі прозвішчы шаснаццаці кіраўнікоў нацыянальна-культурных таварыстваў, у тым ліку і маё, кіраўніка гурта беларускай культуры "Зорка Венера", сябра Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". У той час, на правялікі жаль, мяне не здзівіла прапанова абраць старшынёю "савета" Героя Савецкага Саюза, генерал-лейтэнанта ў адстаўцы М.Піліпенку: як жа, мяне ж "уключылі" у "члены савета"!!! Як і іншых пятнаццаць кіраўнікоў, сярод якіх мне былі знаёмыя толькі два прозвішчы: Барыса Цімошчанкі са Львова і Васіля Самуйлёнкі з Харкава (пазней, у лютым 98 г. да іх дабавіўся яшчэ адзін — Сяргей Салук з Івана-Франкоўска ...

Іншых "кіраўнікоў" не ведаю і па сёння: абяцанага "з'езда" Беларусаў Украіны ў травені сёлета так і не правялі: галоўны яго "организатор и вдохнјвитель" ... пайшоў на пенсію (маю на ўвазе пана Бокача, радніка беларускай амбасады у Кіеве, які цесна супрацоўнічаў з кіеўскімі пенсіянерамі, выхадцамі з Беларусі, якія "праславіліся" , дзякуючы "барацьбе" супраць карэспандэнта газеты "Звязда" Валерыя Каліноўскага (ён пастаянна дае праўдзівыя матэрыялы аб падзеях у Беларусі, часцяком у іх "дастаецца" "любимому вождю" беларускага сялянства і пенсіянераў пану Лукашэнку) і газеты "Киевские ведомости", якая карыстаецца паслугамі Каліноўскага... Ліст ініцыятыўнай групы сапраўды даваў нейкую надзею на аб'яднанне нашых беларускіх таварыстваў на Украіне: разам мы былі б сілай, з якою павінны былі б лічыцца і мясцовыя ўлады, і ў Кіеве. Вось чаму я з такім рвеннем кінуўся пісаць той допіс у "Голас Радзімы": як жа, навіна, якую асабіста я чакаў не адзін год! У выніку маем чарговую "ліпу"; усё толькі на паперы, адны "дэкларацыі": які ж гэта "савет", калі мы, жыхары правінцыі, не ведаем у твар ані нашага старшыню - героя, ані ягонага намесніка пані Аржахоўскую, лісты ад якой апошнім часам спраўна атрымліваем, ані адзін аднаго!? Не змаглі склікаць з'езд, то хаця б сабраць так званы "савет" маглі б?!

... Вяртаюся я з летняга адпачынку ў Ізяслаў і атрыліваю ліст з Кіева ад старшыні "совета председателей белорусских национально-культурных товаришеств в Украине" М. Піліпенкі за № 9 ад 9 ліпеня (я яго прачытаў 22 ліпеня), з якога даведваюся, што наш "совет" "создан 22 лістапада 1997 года, является членом Совета национальных обществ Украины". Вокамгненна, калі лічыць, што сваю згоду ўвайсці ў гэты "савет" з прапановамі правесці ў Кіеве альбо Львове з'езд беларусаў Украіны я накіраваў у Кіеў у ініцыятыўную групу толькі 3 кастрычніка 97 года.

Як кажуць у такіх выпадках, — усё ўжо было на паперы зроблена, а мы былі "задзеяны" для праформы у "масоўках"! На ўсялякі выпадак, калі раптам нехта пачне "возникать", а як жа ствараўся гэты "савет", калі нават з'езда не было?!

Дык вось, шаноўнае спадарства, канкрэтна пра ліст за № 9, які мае загаловак "Информация". Кінуўся чытаць гэтую самую "інфармацыю": раптам з'езд адбудзецца! Дзе там! У пачатку ліста - інфармацыі генерал-лейтэнант у адстаўцы, ён жа старшыня савета ... пералічвае, як "працавалі сябры савета і ягонае кіраўніцтва за мінулыя паўгады: прынялі ўдзел у мерапрыемствах пад рубрыкай "Всі ми діти твої, Україно!" (снежань 97г.), завіхаліся ў падрыхтоўцы "круглага стала" газеты "Столичные новости", удзельнічалі ў сумесных міжнацыянальных мерапрыемствах па падрыхтоўцы да ўдзелу ў выбарах у Вярхоўную Раду і мясцовыя саветы усіх узроўняў (люты - сакавік), у падрыхтоўцы і правядзенні Усеўкраінскай канферэнцыі "Сацыяльная абарона ў нацыянальных таварыствах Украіны", аказвалі ... "методическую помошь в создании новых белорусских товаришеств" ( сакавік - чэрвень). Были также предприняты меры по предупреждению попыток дискредитации РБ газетой "Киевские ведомости" (я ўжо пісаў вышэй пра "барацьбу" супраць В. Каліноўскага!) ...

Чытаю і пра сябе ўсміхаюся: што ні кажы, а ў савецкія часы добра ўмелі вучыць, як запускаць у "вытворчасць ліпу". Але ж, браткі мае, няма сёння Савецкага Саюза, хіба што дзесьці ў Беларусі захаваліся ягоныя невылечныя рэцыдывы, але ж мы жывём у незалежнай Украіне, якая 24-га жніўня сёлета будзе адзначаць сваю 7-ую гадавіну незалежнасці. І мы, хоць і беларусы, але ж мы - украінскія беларусы, а не тыя даверлівыя беларусы у Беларусі, якія вераць любой "лухце", што піша "Советская Белоруссия", ці так званая "Народная газета", іншыя "прыкарытныя" выданні. У гэтым лісце, дарэчы, напісана, што "руководство советом осуществляет работу по подготовке материалов Белорусскому национально-просветительскому центру им.Ф.Скарыны и Международной ассоциации белорусов для энциклопедического спрвочника "Беларускае замежжа", который будет издаваться в г. Минске". Адразу хачу праз "Наша слова" папярэдзіць спадара Адама Мальдзіса, што ўсе матэрыялы, якія я ўжо накіраваў у МБА і Нацыянальна асветны цэнтр імя Ф.Скарыны, напісаны мною асабіста без аніякага ўдзелу ці "дапамогі" згаданага кіраўніцтва савета ў асобе сп. Піліпенкі і ягоных намеснікаў і дарадцаў у Кіеве: я нічога агульнага з імі не маю, апроч той "валтузні", у якую даў сябе ўцягнуць " ініцыятыўнай групе па стварэнню "савета" ... Так што ўсё, што будзе дасылацца з Кіева, павінна правільна правярацца, ці існуе тое, аб чым пішуць, на самой справе: як можа ўсё прымаць на давер, калі спадар пасол Курашык гаворыць пра 20 беларускіх нацыянальна-культурных таварыстваў ва Украіне, а старшыня М. Піліпенка ў сваёй "інфармацыі" гаворыць ужо пра 26 такіх таварыстваў ... Карацей кажучы, нават у "прыпісках" няма "единодушия"! ..

... Не палічыце, шаноўнае спадарства, гэты мой допіс нейкім "даносам": 24 ліпеня я адправіў ліст на імя намесніка старшыні "савета" спадарыні Ірыне Аржахоўскай, у якім выказаў сваё незадавальненне з прычыны "працы савета на паперах" і не адбыўшымся з'ездам беларусаў Украіны, пашкадаваў, што даў сябе уцягнуць у мінулым годзе ў гэтую "гульню", і што болей я і гурт беларускай культуры "Зорка Венера" не будзем "супрацоўнічаць" вось такім чынам (на паперах!), больш за 10 гадоў працавалі без гэтых самых "паперак", будзем працаваць і надалей без іх і так званага "савета" у Кіеве. Даволі "цацанак-абяцанак", бо няма ў Ізяславе "дурняў", каб гэтым "цацанкам" радаваліся! .. Ёсць у нас больш надзейныя сябры з ліку супрацоўнікаў Міністэрства адукацыі Беларусі ў асобе спадара Генадзя Пяцігора і дырэктара навукова-педагагічнай бібліятэкі гэтага Міністэрства спадарыні Алены Шамелавай, якія на працягу апошніх трох гадоў аказалі нашаму гурту беларускай культуры вялікую дапамогу ў набыцці падручнікаў, іншай літаратуры, у 1996 годзе група дзяцей з Ізяслава адпачывала ў летніку "Зубраня" на возеры Нарач. Не магу не ўспомніць і Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур Міністэрства культуры Беларусі і Дзяржаўны камітэт РБ у справах рэлігій і нацыянальнасцяў, якія гэтаксама аказалі нам дапамогу ў працы. Сёння нам патрэбна канкрэтная дапамога, а не розныя лісты - "Інфармацыі" і "гульні на паперках"! ..

Таму я лічу, што ў такой вось "форме" розныя так званыя "саветы" нам не патрэбны, а абменьвацца досведам работы мы маем магчымасць пад час сустрэч на з'ездах і канферэнцыях, якія для беларусаў далёкага і бліжняга замежжа ладзіць Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". А дапамагчы матэрыяльна: падручнікі, кнігі, аўдыё і відэакасеты і іншым нам могуць толькі з Бацькаўшчыны, таму што на Украіне зараз не да нас ды і няма ў дзяржавы сродкаў на практычную дапамогу: некаторыя мае калегі яшчэ не атрымалі цалкам запазычанасць па заработнай плаце за ... 1996 год! Я сам не бачу "жывых" грошай па паўгода, а то і болей! .. Мне што, "савет" дапамог хоць раз атрымаць зарплату? А ім жа ў Кіеве ёсць для гэтага магчымасці. А навошта панам лішнія клопаты з нейкім там галодным "членам савета" у правінцыі! .. Вось такая рэчаіснасць: горкая, паскудная, бязрадасная, калі даводзіцца жыць адным днём, калі ў кішэні "гуляе вецер" ... а нехта, сыты і дагледжаны, каб не сумаваць, шукае сабе "няпыльную работу" на "ніве" нацыянальна-культурнага напрамку ...

Апроч агіды гэтага нічога іншага ў мяне не выклікае ...

**Пятрусь Капчык,** *філолаг, выкладчык расейскай і польскай моў, кіраўнік гурта беларускай культуры "Зорка Венера", член Вялікай Рады Згуртаваньня беларусаў свету "Бацькаўшчына", г.Ізяслаў, Украіна.*

*15.08.98г.*

# Хто вінаваты ў разбурэнні беларускай адукацыі?

Азнаёміўшыся з дакладам В. Палсцюка "Школьны этнацыд" ("Наша слова" № 18 за 1997г.), з прычыны яго важнасці я некалькі экзэмпляраў газеты з ім перадаў некаторым службовым асобам раёна. А выконваючы другі пункт пастановы Рэспубліканскай Рады ТБМ і ТБШ ад 18 лістапада 1997 г., устанавіў кантакт з раённым аддзелам адукацыі і асобнымі работнікамі выканаўчага камітэта. У мяне і дагэтуль былі добрыя дачыненні з прадстаўнікамі мясцовай улады, а цяпер адбыліся карысныя гутаркі, у якіх пачаў: "А ці бачыце вы які-небудзь націск у моўным пытанні з боку раённай улады? Наадварот, бацькі ціснулі на нас ... Усё залежыць ад ступені нацыянальнай свядомасці людзей".

І праўда, такі факт быў, калі некалькі мамаў дабіваліся адкрыцця расейскамоўнага першага класа ў СШ №3, а потым перавода другога, бо ў Ашмянах у 1993-94гг. на чатыры гарадскія школы было толькі два расейскамоўныя класы першакласнікаў. Сёння такіх класаў у нас ужо дзесяць і толькі чатыры беларускія. Пераход ад цалкам беларускіх пачатковых класаў да расейскамоўных — у гэтым годзе ў СШ №2 няма беларускага першага класа — адбываецца выключна па волі бацькоў, як паўсюдна на Беларусі. Сапраўды без ніякага ўмяшання раённай улады, за што яе фармальна нельга нават папракнуць.

Дарэчы, падобнае было ў 70-80-х гадах, калі Беларусь хутка пераходзіла на расейскую мову, за што яе тады пахваліў генсек КПСС М.Хрушчоў і "паабяцаў беларусам другімі ўвайсці ў камунізм". У той час ашмянская беларуская СШ№2 без ніякага рашэння райвыканкама ці РАНА па ініцыятыве дырэкцыі самастойна перайшла на расейскую мову, каб зраўняцца з расейскамоўнай першай. Ніхто гэтага не заўважыў, бо такі вецер дуў з Масквы. Цяпер таксама дуе падобны вецер, толькі ён узняты ў самой Беларусі яе кіраўніцтвам. Яно адкрыла шырокую дарогу расейскай мове і стварыла вельмі неспрыяльныя ўмовы для беларускай.

Важнейшую ролю адыграў рэферэндум 1995 г., на якім народ ухваліў прапанову прэзідэнта даць бацькам права самым выбіраць мову навучання сваіх дзяцей. За знешняй дэмакратычнасцю гэтага права і волевыяўлення народа, аб якім неаднаразова гаварыў А.Р.Лукашэнка, тоіцца вялікая антынацыянальная сутнасць. Перш за ўсё прэзідэнт дапамог усім расейцам, якіх у нас многа і якія не хочуць вывучаць мову таго народа, на зямлі якога жывуць. Па-другое, ён паспрыяў тым беларусам, якія самі ўжо пераламаліся на расейскі капыл за гады вучобы і працы ў савецкі час і паддаліся асіміляцыі. Іх таксама многа і разам з першымі ўтвараюць большасць, а свядомыя беларусы з'яўляюцца пацярпелым бокам. Ухваленне народам на другім рэферэндуме роўнага статусу расейскай мовы з беларускай канчаткова абмежавала яе магчымасці. Бо не можа быць роўнасці паміж "вялікім і магутным", прызнаным адным з пяці сусветных, і гадамі прыгнечанай і заціснутай беларускай мовай. З гэтага часу прэзідэнт забяспечыў сябе і ўвесь чыноўніцкі апарат рэспублікі правам карыстацца прывычнай і папулярнай расейскай мовай, як дзяржаўнай і вызваліў усіх службоўцаў ад патрэбы вывучаць і карыстацца беларускай.

Спасылка на нізкую нацыянальную свядомасць народа не пераконвае. Адкуль жа ёй быць высокай, калі за апошняе стагоддзе ўжо некалькі разоў нацыянальны ўздым і адраджэнне спынялася варожымі сіламі і замест развіцця і ўзмацнення нацыянальнай свядомасці ішло разбурэнне і падаўленне яе. А яна ўсё-такі ёсць. Мяне і цяпер здзіўляе, як гэта ўдалося ў пачатку 90-х гадоў органам народнай асветы і кіраўніцтву школ перавесці амаль усе пачатковыя класы ў рэспубліцы на беларускую мову навучання. Гэта быў подзвіг службовых асоб усіх рангаў, варты ўзнагарод. А народ зразумеў, што ў адроджанай Беларусі школы павінны быць беларускія, гэта заканамерная з'ява. У той час ашмянская СШ №1 — самая старэйшая і расейскамоўная — цалкам перайшла на беларускую мову ў пачатковых класах і пратрымалася на нацыянальных пазіцыях найдаўжэй у горадзе. І калі дырэктар яе не хацеў паспешліва змяняць мову навучання дзяцей і даводзіў гэта бацькам, то яны ўспрымалі такое з разуменнем. У 1996 годзе з 85 першакласнікаў толькі бацькі чатырох выбралі расейскую мову. Але агульная тэндэнцыя змянення мовы навучання перамагла, і ў 1997 годзе і ў іх адкрыліся тры расейскамоўныя першыя класы і два беларускія. У маёй суседкі старэйшая дачка Лена вучыцца ў пятым беларускім класе гэтай школы, а малодшая Аня пайшла ў першы расейскамоўны клас у гэтым годзе. Іначай і быць не можа, бо людзі не бачаць перспектывы ў беларускай мовы: на ёй ні вучыцца пасля школы не давядзецца, ні размаўляць на рабоце не прыйдзецца. А тым больш у адзінай дзяржаве з Расеяй — славянскім саюзе, да якога нас вядзе прэзідэнт. На ўсё гэта людзі рэагуюць адпаведна. А ў выбары мовы яны маюць сёння такую ж свабоду і права, якія мелі на выбарах у СССР, калі ў бюлетэнь уносілі аднаго кандыдата і кожны мог галасаваць і за, і супраць, але гэта на выніку не ўплывала.

Назва даклада В.Палсцюка рэжа вуха сваём незвычайным спалучэннем слоў, катэгарычнасцю, але ў ёй выражана найбольш поўна і канцэнтравана сённяшняя сутнасць праблем беларускай мовы і школы на Беларусі. Яны знішчаюцца, нягледзячы на добрыя словы і запэўніванні кіраўнічых асоб РБ у падтрымцы і дапамозе ім.

***Міхась Пузіноўскі,***

В.І. Саітава

## Часопіс “Ateneum wilenskie” — крыніца бібліяграфічнай інфармацыі аб Беларусі

У канцы 80-х — 90-я гады ўпершыню за доўгія дзесяцігоддзі стварыліся ўмовы для пашырэння кола крыніц, выкарыстаных для вывучэння беларускай мінуўшчыны.

Адказныя задачы паўсталі і перад бібліёграфамі. Ім належыць выявіць яшчэ многія дакументы па беларусазнаўству, якія па розных прычынах сталі да сягодняшняга часу невядомымі і для вучоных і для бібліёграфаў. Вельмі працаёмкай будзе і работа па стварэнню і адлюстраванню ў бібліяграфічных рэсурсах бібліяграфічных запісаў на гэты паток дакументаў, прадстаўленню іх спажыўцам у выглядзе найлепшых паслуг.

У лік малавядомых належыць, на жаль, навуковы часопіс “Ateneum wilenskie”* — адно з самых багатых на навуковую і бібліяграфічную беларусазнаўчую інфармацыю выданняў. Задачай часопіса было працягваць традыцыі навуковых даследванняў мінулага ВКЛ. Заснавальнікамі ён задумваўся як прадаўжальнік найбольш значных перыядычных і неперыядычных выданняў XIX-пачатку XX стст., прысвечаных гісторыі ВКЛ, такіх як “Athenaeum” Крашэўскага, “Teka Wilenska” А.Кіркора, “Zbior dyplomatow” Круповіча, “Skarbiec dyplomatow” І.Даніловіча, “Kwartalnik Litewski” і іншых.

Часопіс пачаў выдавацца ў Вільні ў 1923 г. трэцім (III) аддзелам Таварыства сяброў навук. Рэдактарам стаў прафесар універсітэта імя Стэфана Баторыя К.Хадыніцкі, у 30-я гады гэту пасаду прынялі Е.Мадэльскі, Б.Віланоўскі і Ст.Зайянчкоўскі. Выдавец — Таварыства сяброў навук было заснавана яшчэ ў 1907 годзе, сябры яго ўдзялялі вялікую ўвагу даследванню мінулага ВКЛ і друкаваліся ў гадавых зборніках. Напачатку 1923 г. ў Таварыстве было 640 сяброў, існавала багатая навуковая бібліятэка, у якой было некалькі дзесяткаў тысячаў друкаваных і рукапісных дакументаў. Таварыства мела таксама і музейную калекцыю. У гэты час вывучэнне мінулага ВКЛ набыло такую навуковую і грамадскую актуальнасць, што узнікла патрэба ў стварэнні спецыяльнага перыядычнага органа для публікацыі вынікаў новых даследванняў. Вакол “Ateneum wilenskiego” зграмаздзіліся ўсе вучоныя RP, а таксама навукоўцы некаторых другіх еўрапейскіх краін, аб’яднаныя вывучэннем мінулага ВКЛ. У часопісе былі надрукаваны многія дзесяткі грунтоўных навуковых даследванняў. Неаднаразова з’яўляліся працы М.Брэнштэйна, С.Зайянчкоўскага, А.Прохазкі, Я.Якубоўскага, Я.Івашкевіча, Ф.Канечнага, М.Дубецкага, В.Мацееўскай і другіх вучоных.

У Варшаве выходзіў у гэты час часопіс прысвечаны справам культуры пад назвай “Ateneum”, які фактычна быў літаратурна-мастацкім выданнем.

У “Ateneumie wilenskim” на працягу ўсіх гадоў існавання захоўвалася сталая структура: асноўнымі былі раздзелы: навуковыя трактаты, сумесь і матэрыялы, крытычны, бібліяграфічны, хронікі і спаваздач.

У першым раздзеле “Навуковыя трактаты” змяшчаліся грунтоўныя даследванні, аб’ём і структура якіх адпавядае сучаснай дысертацыі ці манаграфіі. У другім раздзеле “Сумесь і матэрыялы” друкаваліся навуковыя артыкулы традыцыйнай формы, і ў вялікай колькасці публікаваліся гістарычныя крыніцы. Менавіта ў гэтым раздзеле апублікаваны лісты, успаміны, данясенні, рапарты, справаздачы і другія архіўныя матэрыялы на польскай, расейскай і замежных мовах. Часам яны друкаваліся ў арыгінале, як, напрыклад, ліст на беларускай мове браслаўскага ваяводы і шляхты да караля Стэфана Баторыя, датаванае 1569 г., з просьбай не прысылаць больш з каралеўскай канцэлярыі дэпешаў, напісаных на польскай мове. Часцей беларуска- і расейскамоўныя тэксты друкаваліся лацінкаю, так напрыклад, было апублікавана вялікае “всеподданейшее донесение” невядомай асобы, напісанае ў 1838 г., аб наспеласці далучэння вуніяцкай царквы да праваслаўнай і аб магчымай рэакцыі насельніцтва Меншчыны і канкрэтных асобаў. Аднак ў абодвух выпадках паралельна падаваўся пераклад тэкста на польскую мову.

Раздзел хронікі і спаваздач раскрываў ход асноўных навуковых і культурна-асветных падзей, якія мелі дачыненне да вывучэння ВКЛ. З гэтага раздзела ў прыватнасці, можна даведацца нямала звестак аб бібліятэчных і музейных зборах.

Тэматыка навуковых прац, якія друкаваліся ў “Atenium Wilenskiem”, раскрывае мноства пытанняў, граняў жыцця ВКЛ пераважна за перыя XIУ - XIX стст. Гэта былі вялікія князі і праводзімая імі палітыка, адносіны з Польшчу, Масковіяй, крыжакамі, татарамі, права ВКЛ, шматлікія накірункі даследванняў эканомікі гарадоў, мястэчак, сельскай гаспадаркі, гісторыі княжацкіх родаў, біяграфіі відных дзеячоў, войны і войска, комплексныя апісанні Вільні, другіх гарадоў і населеных пунктаў, моўныя спрэчкі, рэлігійнае жыццё, вызвольныя паўстанні пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі, 1831, 1863-64 гг. і іншыя падзеі. Амаль ў кожным навуковым даследванні і гістарычным дакуменце змяшчаліся матэрыялы пра беларускія землі і іх насельнікаў. Асобныя выпускі AW прысвячаліся буйнейшым гістарычным падзеям і юбілеям выдатных даследчыкаў ВКЛ, напрыклад, у 1930 г. выйшаў выпуск, прысвечаны 500 - гадовай даце смерці вялікага князя Вітаўта, былі нумары ў гонар гісторыка і бібліёграфа Людвіка Фінкала, аднаго з галоўных арганізатараў Таварыства сяброў навук, даследчыка права ВКЛ Альфонса Парчэўскага і інш.

(Працяг у наступным нумары)

# Слова пра загарак

На аснове архіўных дакументаў можна з пэўным перакананнем сказаць, што на мяжы XIII ст. узніклі спачатку вырабленыя з жалеза - колавыя гадзіннікі. Да дзеяння іх пабуджала цяжкое, ацяжаранае цяжарам кола. Гадзіннікі з цяжарам былі выкліканы патрэбамі літургіі і ствараліся для кляштароў. Самы першы тып гадзіннікаў з цяжарам узнік дзесьці ў першай палове XIУ ст. Такія гадзіннікі патрабавалі пільнага догляду, бо цяжар трэба было час ад часу падымаць уверх. Такія гадзіннікі звычайна, змяшчаліся ў футляр з цыферблатам, мелі прыробленыя збоку дзверцы, два званочкі дзеля адбівання гадзін і чвэрцяў. Але ж прагрэс у гадзіннікавай справе не стаяў на месцы, у ХУ ст. узнікаюць гадзіннікі для падарожжа (падарожныя). Першымі, без сумнення, былі тыя, што рабіў Жан Лібур у 1451 г. у Парыжы, механізм быў зме-шчаны ў медны корпус працы Ж.Лупенэ (з часам багата аздобленыя корпусы і футляры каштуюць так жа дорага, як і гадзіннікавая работа). Яны мелі цыферблат і зверху званочак.

Хутка гадзннікі трапляюць у абцугі моды, яны ператвараюцца ў новы прадмет ужытку. Нагрудныя гадзіннікі былі самых розных форм і змяшчалі ў сабе часам шмат розных прыстасаванняў. Кожная такая рэч з’яўлялася сапраўдным шэдэўрам. З’явіліся авальныя нагрудныя гадзіннікі з выпуклай задняй сценкай, вельмі лёгкія ў выглядзе скрыначкі з боем ( b=23 - 27 мм), шыкоўна аздобленыя і пазалочаныя гадзіннікі у выглядзе пасудзіны, яблыкападобнай формы, прадаўгаватай формы (вырабляліся як правіла ў Германіі і Італіі). Вялікім попытам карысталіся гадзіннікі з горнага крышталю, якія мелі таксама компас і сонечны гадзіннік. У канцы ХУІ ст. набываюць папулярнасць настольныя гадзіннікі. Дыяметр іх 8 - 25 см, вышыня 6-15 см. Яны мелі званочкі, а суцэльны футляр дазваляў рознакаляровае аздабленне на паверхні. У гэты час шырока выкарыстоўваюцца гадзіннікі парадныя з пазалочанай бронзы, а ў абавязковыя арабескі ўстаўляліся ў медальён, выявы сямі планетарных багоў і дэльфінаў, а часам жа футляр упрыгожваўся стужкай са сцэнамі палявання на ўлонні прыроды. Менавіта ў ХУІ ст.усё часцей з’яўляюцца сігнатуры майстроў гадзіннікавай справы. Яны ставілі свае ініцыялы: напрыклад, НА і дзве скрыжаваныя рыдлёўкі -Ганс Грубер, прыблізна 1570 г. Трэба адзначыць, што гадзіннікі паступова ператвараюцца ў раўнапраўную і неаддзельную частку інтэр’ера. Яны ўпрыгожваюцца рознымі лістовымі парасткамі выкананымі з латуні альбо бронзы і пакрытымі золатам ці срэбрам, дапаўняюцца арабескамі, карыятыдамі.

Пачынаючы з сярэдзіны ХУІ ст. ствараюцца вельмі папулярныя ў той час гадзіннікі-аўтаматы. Гэта адбылося пасля таго, як Э.Пальдвейн зрабіў гадзіннік з фігуркамі, якія з’яўляліся ў час бою. Распаўсюджаны таксама былі гадзіннікі невялікіх памераў з чалавечымі фігуркамі, што паказвалі на гадзіннік у кроне дрэва, і глядзелі ў той бок. Гадзіннікі аўтаматы з’яўляліся на працягу ўсяго ХУІІ ст.

Асобную катэгорыю гадзіннікаў, звязаных з фігурай, уяўляючы сабой гадзіннікі-люстэркі, што ўзніклі ў сярэдзіне ХУІ ст. яны мелі круглую форму падобную на люстэрка, якое трымаў Геркулес. Такія гадзіннікі паказывалі звычайна гадзіны і хвіліны, а на пярэднім дыску астралябіі рух нябеснай сферы, мелі невялікі маятнік.

Гадзіннікі — Распяцце ці -Галгофа, яны ўяўлялі сабой Распяцце з гадзіннікам, а па абодвух баках знаходзіліся Марыя і Язэп. З другой паловы ХУІІ ст. такія гадзіннікі былі распаўсюджаны пераважна ў Германіі і вырабляліся ў Аўгебурзе, Штутгардзе і другіх гарадах.

Попыт на гадзіннікі павялічваецца і, каб яго задаволіць, сталі рабіць больш танныя гадзіннікі. Футляр, як правіла, у такіх выпадках рабілі з дрэва з купалападобным верхам. Дыск цыферблата, спачатку быў з золата, срэбра ці пазалочанай медзі, пазней яго рабілі з пазалочанай бронзы з гравіраванным ці траўленым рэльефам малюнкам у выглядзе кветак. Пазней такі дыск быў заменены эмалевым цыферблатам.

Значную ролю ў папулярызацыі гадзінніка адыграла тэхнічнае вынаходніцтва Хрысціяна Гюнгенса ў 1658 г. За гадзіннікавым механізмам на нітках альбо стальным тросе падвешваўся маятнік, які рэгуляваў ход.

У ХУІІ ст.гадзіннікавая справа пачала квітнець у Швейцарыі (Амель і Мокін у Генфе). Асабліва вялікіх памераў дасягнуў выраб нагрудных і кішэнных гадзіннікаў. Корпус рабілі са срэбнай ці залачонай бітай (чэканнай) медзі, срэбра, чарапахі, мейсенскага фарфору, упрыгожвалі перламі і каштоўнымі камянямі. З 1600 г. усё часцей сустракаюцца ратушныя гадзіннікі з музыкай, арганнай, званоў, струннай і фігуркамі, што рухаюцца.

Залатым векам гадзіннікавай справы, асабліва ў тым, што тычыцца корпуса і яго аздаблення, было без сумнення ХУІІІ ст. Гадзіннікі ўключаліся ў кампазіцыю мэблевага гарнітура, напрыклад у спалучэнні з камодам, шафай, пісьмовым сталом, туалетным столікам і люстэркам. Гадзіннікі, што віселі на сцяне, называліся картэлямі, іх пазалочаная рама ўпрыгожвалася арнаментам з лісця вінаграду і розных кветак. Прыкладам вытанчанага густу з’яўляліся гадзіннікі Вуазена з фігурамі кітайцаў і паваў з кітайскага фарфару на пазалочаным цокалі. У Вене ў канцы ХУІІІ ст. з’явіліся так званыя гадзіннікі у раме, на якіх у карціннай раме, быў намаляваны вясковы ці гарадскі краявід з вежай, куды і ўстаўляўся гадзіннікавы механізм.

У эпоху класіцызму з’явіліся камінныя гадзіннікі. Вялікую папулярнасць у сярэдняй Еўропе набылі гадзіннікі ў выглядзе калоны з каланадай з дрэва альбо алебастры, што ставілі перад люстэркам. Яны існавалі ў вялікай колькасці і валодалі самай рознай мастацкай каштоўнасцю.

*Вольга Аблам, студэнтка БУКа*

# Аптэка музей у Гародні

У Гародні захавалася і працягвае дзейнічаць старэйшая аптэка Беларусі. Яна была створана па ініцыятыве ордэна езуітаў у 1687 годзе. Першым аптэкарам быў І.Цішкевіч. Для яе ў 1709 годзе ўведзены аднапавярховы будынак з выхадам на рыначную плошчу. Другі паверх быў дабудаваны ў 1763 годзе аптэкарам - езуітам І.Эдэрам на ўласныя сродкі. У гэтым будынку, нягледзячы на частыя змены дзяржаўнай прыналежнасці, удзельнікаў і арэндатараў, аптэка дзейнічала да 1950 года. Гісторыю, як вядома, ствараюць людзі. Славу былой езуіцкай аптэцы прынеслі працаваўшыя ў ёй такія вядомыя спецыялісты і грамадскія дзеячы, як дырэктар медыцынскай акадэміі прафесар Ж.Э.Жылібер, паборнік дабрачыннасці аптэкар І.В.-Адамовіч, удзельнік паўстання 1863 года і фармацэўт губернскай лекарскай управы С.В.Развадоўскі, відны дзеяч польскай рабочай партыі “Пралетарыят” правізар К.П.Стэфаноўскі.

Неаднойчы наведваў нелегальныя сходкі ў аптэцы паплечнік апошняга, памочнік аптэкара з Каўнаса М.Л. Войніч, адзін з прататыпаў вобраза Артура - галоўнага героя вядомага рамана “Шэршань”(“Овод”), дваюрадны брат Стэфаніды Войніч (у замустве Некраш), бабкі рэдактара газеты “Наша слова” Станіслава Судніка.

Арэндатарам і ўласнікам аптэкі з 1905 па 1939 г.г. быў правізар Э.І.Стэмпнеўскі. Як вядомага грамадзкага дзеяча, яго ў 1922 -1927 г.г. жыхары Гародні выбралі кіраўніком Магістрата. За дапамогу партызанам лекамі ў 1944 годзе ён быў зняволены ў канцлагеры Штутгоф, дзе загінуў.

Ахвярамі нямецкага акупацыйнага рэжыму сталі таксама магістр фармацыі С.Рыгер і памочнік аптэкара Эпштэйн. Адноўленую пасля вызвалення Гародні аптэку № 3 узначальваў правізар А.Р.Троп - Крынскі, які аддаў аптэчнай справе звыш 50 год жыцця.

З 1950 года у будынку аптэкі размяшчаўся склад, салон мэблі. Пасля абвяшчэння яго ў 1988 годзе помнікам гісторыі рэспубліканскага ўзроўню ён па ранейшаму выкарыстоўваўся не па прызначэнню.

У лютым 1996 годзе частка памяшканняў першага паверха па рашэнню Гарадзенскага гарвыканкама перададзена навукова - вытворчаму кааператыву “Біятэст” для стварэння аптэкі - музея. Пасля рэстаўрацыйных работ 23 ліпеня 1996 года яна прыняла першых наведвальнікаў. Аптэка-музей гэта не звычайная аптэка, дзе толькі набываюць неабходныя лекі. Тут створана музейная экспазіцыя, з якой можна даведацца аб гісторыі развіцця фармацыі ў Гродна. Звесткі аб гарадскіх аптэках і аптэкарах вядомых са старых хронік і з архіўных дакументаў, пачынаючы з ХУІІ стагоддзя. Убачыць іх адлюстраванне, даведацца пра дзейнасць магчыма з экспануемых фотаздымкаў і ксеракопій дакументаў. На стэндах экспазіцыйнай залы дэманструецца калекцыя аптэчнага посуду і абсталявання канца XIX - першай паловы XX стагоддзяў.

Уяўляюць цікавасць лекі, якімі карысталіся гарадзенцы ў першай палове XX стагоддзя і сігнатуры да іх, узоры лекавых раслін і гербарый, у тым ліку выкананыя самой Э.Ажэшкі.

Захаваліся і выстаўлены для агляду сапраўдныя рэчы з былой аптэкі: прыгатаваныя ў ёй лекі і сігнатуры да іх, дакументы і асабістыя прыналежнасці супрацоўнікаў.

Значную дапамогу ў зборы экспанатаў для аптэкі - музея аказалі жыхары і госці Гародні. Шчыра запрашаем наведаць Аптэку-музей у Гародні.

Продаж лекаў: 8.00 - 22.00 штодзённа,
8.00 - 15.00 у нядзелю.
Агляд музейнай экспазіцыі:
14.00 - 18.00 з аўторка па пятніцу,
9.00 - 13.00 у суботу.

Наш адрас: Гародні, пл.Савецкая, 4. Тэл. 44-17-09.

*Матэрыял падрыхтаваў пад час вандроўкі ў Гародню Віктар Ягорчанка г.Менск.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by



***Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 5. 10. 98 г.
Наклад 2500 асобнікаў. Замова № 2309.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.